БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

1 снежня 1994 г.
Чацвер
№ 129(13846)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**






Малюнак В. ДУБОВІКА.



*Вы не забылі? Сёння ж прэзэнтацыя зімы...*

## Цэны...

*З 30 лістапада зноў змяніліся фіксаваныя рознічныя цэны на белую гарэлку.*

За паўлітра моцнага напітку прыйдзецца плаціць больш на тысячу, 0,7 літра — на 1400, 0,75 — на 1500 і 0,25 — на 500 рублёў. Паўлітровая бутэлька "Пшанічнай" і "Сталічнай" разам з посудам у звычайным афармленні будзе каштаваць 6230 "зайчыкаў", а ў спецыяльным і экспартным — 6290, "Маскоўская" і "Руская" адпаведна — 6160 і 6220 рублёў.

* * *

*З 1 снежня паездка на таксі для мінчан стане яшчэ больш дарагім задавальненнем.*

Адзін кіламетр прабегу машыны будзе каштаваць ужо 800 рублёў, столькі ж — пасадка, а гадзіна прастою — восем тысяч рублёў.

* * *

*З першага снежня павышаюцца тарыфы для прадпрыемстваў, арганізацый і насельніцтва за міжнародныя тэлефонныя размовы, у тым ліку і для краін СНД, у сярэднім у два разы.*

Даражэй цяпер прыйдзецца плаціць кліентам і за міжнародныя тэлеграмы: тарыфы на іх павысіліся ў тры разы.

БЕЛІНФАРМ.

## Прэс–канферэнцыя ўрада

*Днямі адбылася прэс–канферэнцыя Старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра і яго намесніка Сяргея Лінга. Яна была прысвечана новай цэнавай палітыцы ўрада і візіту беларускай дэлегацыі на чале з Сяргеем Лінгам у Брусель.*

Пачаў прэс-канферэнцыю Міхаіл Чыгір, які спыніўся на асноўных аспектах палітыкі ўрада ў эканамічнай сітуацыі, якая склалася. Адзначалася, што розніца ў цэнах у нас і ў нашых суседзяў прывяла да вывазу тавару за межы рэспублікі: у Расію, на Украіну, у краіны Балтыі. Толькі адзін прыклад: апошнім часам у сталіцы рэспублікі павялічыліся ў 3—4 разы заяўкі на смятану. Вывад — трэба пераглядаць цэнавую палітыку.

Затым на прэс-канферэнцыі выступіў Сяргей Лінг, які спыніўся на асноўных момантах нядаўняга візіту беларускай дэлегацыі ў Брусель, у якую ўваходзілі прадстаўнікі дзелавых колаў рэспублікі і прамыслоўцы. Асноўная мэта візіту — пашырэнне двухбаковых сувязей паміж нашай рэспублікай і Бельгіяй, якія толькі пачынаюць усталёўвацца на дзяржаўным узроўні. Акрамя гэтага ў Бруселі вяліся перамовы з прадстаўнікамі Еўрапейскага Саюза. Паводле слоў Сяргея Лінга, падрыхтаваны ўжо праект дамовы аб партнёрстве і супрацоўніцтве, які плануецца падпісаць у студзені будучага года пад час візіту прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Бельгію.

Сяргей Лінг зазначыў, што ў Бельгіі існуе своеасаблівы інфармацыйны вакуум вакол Беларусі, пры наяўнасці цікавасці бізнесменаў гэтай краіны да ўсіх палітычных і эканамічных падзей, якія адбываюцца ў нашай рэспубліцы.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

## Аварыя ў Арэхаўску

*Як паведаміў намеснік галоўнага ўрача Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі У.Жукоўскі, у гарадскім пасёлку Арэхаўск Аршанскага раёна 21 лістапада 1994 года з–за няспраўнасці каналізацыі каналізацыйныя сцёкі трапілі ў водаправодную сетку ведамаснага водаправода завода "Лантан", што забяспечвае пітной вадой тры жылыя дамы пасёлка, у якіх пражывае каля 300 чалавек, і дзіцячы садок на 180 месцаў (у апошні час садок наведвае каля 90 дзяцей).*

З пацярпеўшых дамоў 25 лістапада па медыцынскую дапамогу з прычыны кішэчных расстройстваў звярнулася 10 чалавек, якім пастаўлены дыягназ: вострыя гастраэнтэракаліт лёгкай ступені цяжкасці, ім назначана амбулаторнае лячэнне. Водаправод будзе запушчаны ў работу пасля нармалізацыі лабараторных паказчыкаў вады.

## Дапамога. Але для каго?

*Служба кантролю прэзідэнта рэспублікі правяла праверку паўнаты апрыходавання і размеркавання матэрыяльных каштоўнасцей, якія паступаюць у парадку гуманітарнай дапамогі ў адрас розных арганізацый і прадпрыемстваў Гомельскай вобласці.*

Вынік праверкі несуцяшальны — з 16 атрымальнікаў толькі два вялі бухгалтарскі ўлік паступаючай дапамогі. Многія арганізацыі выкарыстоўвалі атрыманыя грузы не па прызначэнню.

## Унікальныя кнігі

*папоўнілі фонды Дома–музея вялікага паэта–гуманіста Адама Міцкевіча ў Навагрудку.*

Адна з іх — прыжыццёвы зборнік яго вершаў, які выйшаў у свет больш чым паўтара стагоддзя таму ў Познані. А прыслалі яго ў музей землякі паэта Леслі і Данута Спячынскія, якія жывуць цяпер у Лондане. Дарэчы, акрамя вершаў, у зборніку ёсць некалькі песень, у прыватнасці, песня пра Нёман, музыку для якой на словы Міцкевіча напісаў кампазітар Караль Ліпінскі. Экспазіцыю музея папоўнілі таксама выпушчаныя ў 1834 годзе ў Парыжы факсімільным выданнем паэма "Пан Тадэвуш", кніга "Конрад Валенрод. Гражына", іншыя творы, выдадзеныя ў апошнія гады ў Польшчы. Усе яны ўвойдуць у новы раздзел экспазіцыі, які рыхтуецца да 200-годдзя паэта.

БЕЛІНФАРМ.

## Крызіс "важнейшага з мастацтваў"

*"З усіх мастацтваў важнейшым для нас з'яўляецца кіно", — сцвярджаў Ільіч. Адмовіўшыся ад яго ідэй, мы, здаецца, вырашылі адмовіцца і ад "важнейшага з мастацтваў". Больш чым палова кінаўстановак зачынены за апошнія два гады толькі ў Гродзенскай вобласці, звольнены іх работнікі. Многія ж з тых, хто яшчэ працуе, таксама "храмаюць" на абедзве нагі — не хапае абсталявання і запчастак, усё менш запускаецца добрых фільмаў.*

Мяркуючы па ўсяму, становішча не выправіцца ў бліжэйшы час, таму што яшчэ адзін сацыялістычны лозунг — "кадры вырашаюць усё" — наўрад ці калі-небудзь састарэе. А што ж казаць пра кадры, калі сярэдняя зарплата работнікаў кінасеткі за кастрычнік склала 67 тысяч рублёў?

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

## "Выкінутыя на вуліцу"

*У канцы лістапада ў рамках міжнароднага семінара "Роля няўрадавых арганізацый у дзейнасці па абароне правоў дзіцяці", арганізаванага Беларускім дзіцячым і Хрысціянскім фондамі, адбылася прэс–канферэнцыя.*

Разглядаліся праблемы, звязаныя са шматлікімі клопатамі сельскіх школ, станам выхаваўчай работы з падрастаючым пакаленнем. Адзначалася, што беларуская дзяржава не праяўляе належны клопат аб сям'і, і ў выніку дзеці апынуліся практычна "выкінутымі на вуліцу". Не абышлі ўвагай прысутныя і яшчэ адну вострую тэму — мову выкладання ў школах.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

## Курсы валют на 30 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Алімп" | 8090 | 8400 | 5185 | 5383 |
| "Дукат" | 8000 | 8400 | 5000 | 5350 |
| "Прыор" | 8050 | 8290 | 5160 | 5390 |

**ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА**

# Прэзідэнцкая вертыкаль пачалася ў Віцебску, Закон аб выбарах фінішаваў у Авальнай зале

□ Вольга ШАЎКО,"ЧЗ"

Чарговы тур парламенцкіх пасяджэнняў пачаўся ў аўторак, але без прэзідэнта. Аляксандр Рыгоравіч ушчыльную ўзяўся за фарміраванне вертыкалі выканаўчай улады і ўдзельнічаў у сесіях абласных Саветаў, дзе разглядалася пытанне аб зацвярджэнні старшынь выканкамаў.

А дэпутаты Вярхоўнага Савета, не спяшаючыся, узяліся за стварэнне чарговых заканадаўчых актаў, адвёўшы на гэту работу для сябе тры з паловай дні. Ужо многія сродкі масавай інфармацыі задаюць сабе пытанне: як магчыма пры такіх тэмпах работы апошняй сесіі цяперашняга склікання "разабрацца" з мяркуемым парадкам дня? Здаецца, што для саміх дэпутатаў знак пытальніка тут з'яўляецца другарадным.

У аўторак парламентам у рэшце рэшт прыняты Закон "Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь", які, дарэчы, дапрацоўваўся з леташняй вясны. І нават на гэты раз дэпутаты абмяркоўвалі да яго каля сарака паправак. Засталіся расчараванымі прадстаўнікі арганізацый ветэранаў і інвалідаў. Менавіта іх прапанова пакінуць у Законе аб выбарах парламенцкія квоты для гэтых сацыяльных груп хаця б на адно скліканне ў сувязі са складанай сацыяльна-палітычнай абстаноўкай не знайшла падтрымкі. Такім чынам, умовы барацьбы за парламенцкія крэслы для будучых кандыдатаў у дэпутаты застаюцца роўнымі. Усе змагаюцца за мандаты ў акругах. Акрамя таго, новыя нашы выбраннікі ўжо не будуць называцца народнымі. Гэта слова выкраслена з тэксту закона, і цяпер у новы парламент прыйдуць проста дэпутаты. Калі ж мы атрымаем магчымасць прагаласаваць за іх? Толькі пасля таго, як прэзідэнт падпіша закон, вызначыцца дата выбараў.

У дзень, пра які мы вядзём гаворку, адбылася традыцыйная прэс-канферэнцыя. На сустрэчу з журналістамі прыйшоў начальнік упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Фядута, які падзяліўся сваімі думкамі адносна падзей апошніх дзён. Важнай ён назваў заяву прэзідэнта аб эканамічнай палітыцы, якая пацвярджае абраныя шляхі да сацыяльна арыентаванага рынку. А.Фядута засяродзіў увагу прысутных на тым, што кіраўнік дзяржавы прыступіў да фарміравання вертыкалі выканаўчай улады. А.Лукашэнка прыняў ужо ўдзел у сесіі Віцебскага аблсавета, дзе старшынёй выканкама быў зацверджаны Уладзімір Андрэйчанка, які раней працаваў старшынёй абласнога сельгасхарчу.

Учора адпаведная сесія прайшла ў Магілёве, на чарзе — Гомель. У астатніх жа абласцях і горадзе Мінску сесіі пройдуць пасля таго, як прэзідэнт вернецца з Будапешта, дзе прыме ўдзел у сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў — членаў нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

Пад час прэс-канферэнцыі журналісты былі праінфармаваны аб апошнім пасяджэнні Савета Бяспекі рэспублікі, якое прайшло ў панядзелак. На ім, у прыватнасці, абмяркоўвалася пытанне аб адносінах Рэспублікі Беларусь да праграмы "Партнёрства ў імя міру". Беларусь — апошняя з краін СНД, якая не ўступіла ў гэту праграму. Па выніках абмеркавання пытання, адзначыў А.Фядута, прынята рашэнне аб мэтазгоднасці такога кроку.

Савет Бяспекі абмяркоўваў таксама пытанне барацьбы са злачыннасцю. Як заўважыў А.Фядута, была адзначана палітызацыя арганізаванай злачыннасці, стварэнне ў СНД рынку злачынных паслуг. Зыходзячы з гэтага, прапанавана прыняць шэраг канкрэтных захадаў.

Журналісты пачулі, што прэзідэнт падпісаў некалькі ўказаў. Згодна з імі, у адстаўку пайшоў міністр гандлю Валянцін Байдак (прычына — адначасовае атрыманне двух ордэраў на трох- і чатырохпакаёвыя кватэры) і адкліканы з Германіі наш надзвычайны і паўнамоцны пасол Пётр Садоўскі.

Ажыўленую рэакцыю ва ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі выклікала паведамленне А.Фядуты аб тым, што на Савеце Бяспекі вырашана распрацаваць шэраг мер па гарантаванню бяспекі вышэйшых службовых асоб рэспублікі, а таксама ўзмацніць ахову прэзідэнта і яго сям'і. Спробы журналістаў высветліць, хто, якія сілы і структуры пагражаюць нашым уладу маючым, засталіся безвыніковымі.





*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

## НАТО КАПІТУЛЯВАЛА

*У НАТО вядуцца дэбаты наконт далейшых дзеянняў у адносінах Босніі.*

Як заявіў Клінтан, паветраныя налёты на Боснію спыняцца. НАТО паспрабуе яшчэ раз сесці за стол перагавораў з баснійскімі лідэрамі.

## ТРАГЕДЫЯ ПАПЯРЭДЖАНА

*На італьянскім караблі, які знаходзіўся ля берагоў Самалі, узнік пажар у рэстаране.*

565 пасажырам і членам экіпажа ўдалося выратавацца. На месца здарэння былі накіраваны 10 катэраў, якія і перавезлі пасажыраў. Загінуўшых няма.

## ДАПАМОГА ПАЛЕСЦІНЕ

*Палесцінскі лідэр Я.Арафат падпісаў са старшынёй Сусветнага банка дагавор аб дапамозе.*

Швейцарыя, Данія і Саудаўская Аравія выдзелілі Палесціне 7 мільёнаў даляраў ЗША. Усяго ж за гэты год Сусветны банк пералічыў Палесціне 240 мільёнаў даляраў.

## СУСТРЭЧА ГЕЛЬМУТА КОЛЯ І МІТЭРАНА

*У Боне адбылася германа–французская сустрэча на вышэйшым узроўні.*

Гельмут Коль сустрэў Франсуа Мітэрана з ваеннымі ўшанаваннямі. Гэта адна з апошніх сустрэч лідэраў дзяржаў, бо ў маі наступнага года Мітэран пакіне пасаду прэзідэнта Францыі. На ёй абмяркоўвалася пытанне аб падрыхтоўцы да канферэнцыі краін Еўрапейскага Супольніцтва, а таксама баснійскі крызіс. Коль запэўніў, што Германія ніколі не парушыць эмбарга на пастаўку зброі ў Боснію.

## ПАЛІЦЫЯ СУПРАЦЬ ГАНДЛЮ ЗБРОЯЙ

*У Токіо адкрылася міжнародная канферэнцыя работнікаў паліцыі.*

Нарада сабрала прадстаўнікоў службаў правапарадку з 11 краін, якія абмяркуюць пытанні барацьбы з незаконным гандлем зброяй у Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёне.

